# КРЫВІЯ

**Выданьне беларускае дыяспары ў Чэхіі**

**№26 Чэрвень - Жнівень 2012**

**Культурна-асьветніцкая газэта**

## ЗЬМЕСТ



## Беларуская Чэхія

### Пяць гадоў бяз Уладзі Каткоўскага

Пяць гадоў таму, 25 траўня 2007-га, пасьля цяжкой аўтамабільнай катастрофы і амаль году ў коме пайшоў з жыцця блогер і інтэрнэт-актывіст, вэб-майстар Радыё Свабода Ў

Стваральнік дзясяткаў наватарскіх вэб-праектаў, аўтар беларускага інтэрфэйсу Google, заснавальнік беларускай Вікіпэдыі, адзін зь першых беларускіх блогераў – Уладзя Каткоўскі быў заўсёды ў гушчы беларускага інтэрнэт-жыцьця.



*Уладзя Каткоўскі*

Можна ўявіць сабе, колькі бён, найактыўнейшы беларускі блогер, мог зрабіць сёньня, калі сацыяльныя сеткі аплялі сабою ўсю плянэту, калі жаданьні жыхароў сеціва сталі ўсё сьмялейшыя, а магчымасьці ўсё большыя.

Радыё Свабода засвойвае новыя прасторы ў інтэрнэце, і ўвесь гэты час Уладзя Каткоўскі застаецца з намі. У нашых дасягненьнях, перамогах, прэміях заўсёды будзе і ягоная заслуга. Дзякуй табе, Уладзя!

**Крыніца:** Радыё Свабода, 25.05.2012

# У Празе адчыніўся гостэль пад бел-чырвона-белым сьцягам

У першым беларускім гостэлі ў Празе гучыць беларуская мова й падаюць беларускія стравы. Над уваходам — бел-чырвона-белы сьцяг. Гэта першае месца такога кшталту ў Чэхіі.У беларускім гостэлі ў Празе ўжо жывуць некалькі студэнтаў

Гаспадыня гостэлю — ураджэнка Беларусі. Пераехала ў Прагу 8 гадоў таму. Даўно марыла адчыніць свой гостэль. У верасьні арэндавала 3-павярховы катэдж, сама зрабіла рамонт. Размаўляе прынцыпова па-беларуску. У гостэлі ўжо жывуць некалькі чалавек — студэнты зь Беларусі й Украіны. Даглядае парадак пёс Чыкаціла. Гаспадыня тут — і прыбіральшчыца, і кухарка, і сакратарка. Ёсьць аднаасабовыя, двухасабовыя, шасьціасабовыя пакоі. Гаспадыня запрашае прайсьці на кухню. У мэню — беларускія стравы, дранікі, аладкі, салата аліўе. Эксклюзыў гостэлу — беларускае сала.

***Адрас: Jižní II 3112/4, Praha 4, 141 00 Praha, Záběhlice***




Для беларусаў — надзвычайныя зьніжкі. За ноч — 250 кронаў (каля 10 эўра). Для расейцаў, украінцаў — 400 кронаў. Сьняданак — 50 кронаў (2 эўра). Гаспадыня разьлічвае на беларускіх студэнтаў, ім яна плянуе здаваць спальныя месцы па 4–5 тысячаў кронаў на месяц (200–250 даляраў).

**Крыніца**: Радыё Свабода, Франак Вячорка,18.06.2012

# СУСТРЭЧА з эвангельскім пастарам зь Беларусі

26-га чэрвеня 2012 г. адбылася ў памешканьні Беларускай Клюбоўні ў Празе ( Zitná 32) сустрэча актыву суполкі ПАГОНЯ з пастарам Валерам Шэйбакам зь Менску.

Пастар Шэйбак узначальвае эвангельскі харызматычны збор «Сям'я Божая» ў Менску. Збор налічвае каля 120 дарослых сяброў і больш за 50 дзетак.

Асноўная дзейнасьць збору праводзіцца ў хатніх групах. Пераважна гэта служба ў галіне сацыяльнай: парадамі новым сужэнствам, пры сямейных праблемах, у змаганьні з алькаголем і наркотыкамі.

Пастар Шэйбак даволі шырака распавёў пра сучаснае агульнае становішча пратэстантскіх (эвангельскіх) цэркваў у Беларусі. На сяньняшні дзень яны прадстаўляюць трэцяе найбольшае хрысьціянскае веравызнаньне (850 збораў) пасьля праваслаўных і каталікоў. Трэба адзначыць, што колькасьць пратэстантскіх вернікаў расьце найхутчэй.

Выкарыстоўваньне беларускай мовы ў гэтых зборах апошнім часам таксама паступова ўзрастае.

Прысутныя сябры паінфармавалі госьця аб стане й праблемах грамадзкага жыцьця беларускае дыяспары ў Чэхіі.

Пастар Шэйбак закончыў сустрэчу малітвай за беларускі народ і беларусаў у Чэхіі.



*Пастар і сп-ня Шэйбак у цэнтры здымку*

# Беларуская Прага сьвяткавала КУПАЛЬЛЕ

*на беразе ракі Бэроўнкі, на аўтакэмпе «Карльштэйн.»*

Адбылося гэта ў пятніцу 6-га ліпеня 2012.

Наладзіла імпрэзу суполка «Пагоня,» зь вялікай дапамогай госьцяў зь Беларусі: музычнага гурту **ВУРАЙ** і сп-ні **Ірыны Мазюк** (этнографа й фальклярыста, выкладчыка Беларускай Акадэміі Мастацтваў).

Галоўным пунктам праграмы быў выступ гурту ВУРАЙ (6 музыкаў з поўным падборам інструмэнтаў: скрыпкі, гітары, бубна, кантрабасу й г.д - пад кіраўніцтвам сп. **Сяржука Доўгушава**).

Спачатку група прасьпявала шэраг народных і купальскіх песьняў. Тады перайшла да музычнага выкананьня КАЗАК: Зайкі й Баламута.

А ў канцы нястомны сябра Сяржук запрасіў публіку на Беларускую Дыскатэку, — « Беларускія Танцулькі.»

Уся моладзь, як беларуская, так і чэская ( госьці аўтакэмпу), з энтузіязмам кінулася ў скокі.

*ПРАЦЯГ, і здымкі на ст. 11*

# НАВІНЫ з Бацькаўшчыны

## Статут ВКЛ вярнуўся на радзіму

7 чэрвеня ў будынку Нацыянальнага гістарычнага музэю ў Менску адбылася ўрачыстая перадача Статуту Вялікага Княства Літоўскага музэю гісторыі Магілёва. Улады РБ на выкуп рэліквіі грошай не знайшлі.

Арыгінальнае выданьне на старабеларускай мове 1588 году было выкуплена 5 чэрвеня ў прыватнага маскоўскага калекцыянэра за 45 тысяч даляраў. Улады Беларусі не знайшлі мізэрнай па дзяржаўных мерках сумы, каб вярнуць гістарычную рэліквію. Асноўную частку грошай дала расейская група кампаній «Альпары», астатняе — ахвяраваньні неабыякавых грамадзянаў Беларусі.



У траўні адміністрацыя музэю гісторыі Магілёва абвясьціла дабрачынную акцыю зьбіраньня сродкаў на набыцьцё ўнікальнага выданьня. Пайсьці з шапкай музэйнікаў падштурхнула інфармацыя пра тое, што ў Маскве на электронным аўкцыёне выстаўлены на продаж асобнік Статуту ВКЛ першага выданьня, датаваны канцом XVI стагодзьдзя. Калі стала зразумела, што збор сродкаў ідзе ня так шпарка, як хацелася б, Нацыянальны банк Беларусі зьвярнуўся да камэрцыйных установаў з просьбай дапамагчы ў набыцьці кнігі.

За кошт прыватных ахвяраваньняў было сабрана 15 тысяч даляраў — траціна ад неабходнай сумы. 4,5 тысячы даляраў у якасьці закладу пераліччыў ананімны магілёўскі прадпрымальнік. Але каб ня ўнёсак у памеры 30 тысяч даляраў з боку групы кампаній «Альпары», невядома, колькі яшчэ беларусам давялося б чакаць падобнай удачы. Гаворыць дырэктар афіцыйнага партнэра «Альпары» ў Менску **Аляксандар Сабодзін:**

«Гэтая гісторыя ўвогуле вельмі цікавая, я б нават сказаў — дэтэктыўная. Студэнт-гісторык **Андрэй Радкоў** пабачыў, што прадаецца Статут на аўкцыёне, паведаміў гісторыкам. Мы пра гэтую інфармацыю даведаліся ўжо ў момант звароту Нацбанку ў СМІ. Натуральна, я вырашыў зрабіць запыт нашым маскоўскім калегам у „Альпары“ — ці зможам мы нейкім чынам дапамагчы ў вяртаньні Статуту? Кіраўніцтва кампаніі вельмі хутка адгукнулася на нашу просьбу зь Беларусі, адрэагавала, і вось такім чынам Статут апынуўся ў нас. Я вельмі гэтаму рады, таму што як жыхару Беларусі мне гэта ўдвая прыемна».

**Карэспандэнт: «Фактычна Статут у Беларусь вярнулі расейскія грошы?»**

«Разумееце, няважна нават, якія канкрэтна грошы вярнулі Статут. Важна тое, што ён вернуты, я лічу так. Вельмі прыемна, калі нам пішуць, тэлефануюць нават не кліенты, а проста незнаёмыя людзі, дзякуюць. Таму хачу выказаць удзячнасьць усім тым, хто ўвогуле адгукнуўся на гэтую акцыю — няхай нават не грашыма, а проста словам. Яшчэ раз паўтару: вельмі прыемная навіна. Статут — гэта, па сутнасьці, сярэднявечная Канстытуцыя, найбольш прагрэсіўная на той момант. Гэты дакумэнт зрабіў уплыў на юрыдычную сыстэму як тагачаснай Беларусі, так і нашых суседзяў. Таму, натуральна, прыемна, што гэтая рэліквія вернутая на гістарычную радзіму».

Першым наткнуўся на інфармацыю пра электронны букіністычны аўкцыён з выстаўленай на ім гістарычнай рэліквіяй студэнт-гісторык Андрэй Радкоў. Зьвесткамі ён падзяліўся з дырэктарам Магілёўскага гістарычнага музэю Аляксеем Бацюковым, пасьля чаго і пачалася бурная дзейнасьць, каб вярнуць каштоўны старадрук.

Статут 1588 году распрацаваў падканцлер Вялікага Княства Літоўскага і стараста магілёўскі Леў Сапега. Ён выдаў яго за асабістыя сродкі ў друкарні, заснаванай у Вільні Пятром Мсьціслаўцам на грошы магілёўскіх купцоў Мамонічаў. Вядома пра тры выданьні Статута — у 1588, 1592–1593 і 1594–1595 гадах. Паводле знаўцаў, цяпер у сьвеце налічваецца дзесьці паўсотні асобнікаў Статуту. Найбольшая колькасьць — звыш дзясятка — у Расеі. Па пяць-шэсьць асобнікаў — ва Ўкраіне, Польшчы і Літве. У Беларусі да сёньняшняга дня не было ніводнага. Вяртаньне першай ластаўкі цешыць магілёўскага гісторыка, **доктара гістарычных навук Ігара Марзалюка**:

«Вельмі прыемна і радасна, што з ініцыятывы пэўных зацікаўленых людзей збор грошай прадэманстраваў: беларусы ёсьць нацыяй ... і дзяржаўнай установы, якой зьяўляецца музэй гісторыі Магілёва, адбылося тое, што адбылося. Гэта ўжо ёсьць фактам, што Статут вярнуўся ў Беларусь. Мне ўдвая прыемней, што ён вяртаецца ў Магілёў, адкуль і паходзіў слынны, знакаміты род фундатараў, мэцэнатаў і друкароў Мамонічаў. І ў разы яшчэ больш прыемней ад таго факту — вельмі паказальнага, знакавага, сымбальнага — што збор грошай прадэманстраваў: беларусы ёсьць нацыяй. Бо нацыя — гэта найперш салідарнасьць, гэта паяднаньне са знакавымі сымбалямі, якім зьяўляецца Статут.

Больш за тое, вельмі прыемна, што людзі ахвяравалі свае ўласныя грошы — за вельмі непрацяглы прамежак часу было сабрана 14 тысяч даляраў. Адгукнуліся і банкі, і бізнэсоўцы, і простыя людзі. Вядома, асаблівай падзякі за тое, што так апэратыўна выкуплены Статут, заслугоўвае асабістая, вельмі шчырая зацікаўленасьць і дапамога, якую аказаў адзін з самых знакавых беларусаў у герархіі расейскай улады Валеры Казакоў. Ён ня толькі яшчэ і пісьменьнік і паходзіць з Магілёўшчыны, але і дарадца памочніка прэзыдэнта Расеі па Сыбірскай фэдэральнай акрузе. Менавіта Валеры Мікалаевіч зрабіў усё мажлівае, каб знайшлося 30 тысяч даляраў, каб зацікавіць адпаведную маскоўскую фірму, сярод заснавальнікаў якой ён мае шчырых прыяцеляў. І ўсё гэта стала сёньня фактам».

Паводле экспэртаў, арыгінальны Статут — найвышэйшае дасягненьне старабеларускай прававой думкі, ён паўплываў на культурна-гістарычную і юрыдычную традыцыю шэрагу краін Эўропы. Статут — сымбаль і помнік найвышэйшай культурнай значнасьці. Дзякуючы актыўнасьці неабыякавых людзей рэліквія нарэшце вяртаецца на радзіму.

**Крыніца:** Радыё Свабода, 7 чэрвеня 2012

# Антон Фурс: «Прысягу прымалі пад бел-чырвона-белым сцягам і «Пагоняй»

30 красавіка святкуе 85-годдзе Антон Фурс, адзін з заснавальнікаў Саюза беларускіх патрыётаў — моладзевай арганізацыі, якая ў 1945–1947 гадах дзейнічала ў Глыбокім і Паставах.

Антон Фурс нарадзіўся ў 1927 годзе ў мястэчку Язна Дзісненскага павета (цяпер Мёрскі раён). Вучыўся ў школе ў Язне і прагімназіі ў Глыбокім, пасля акупацыі паступіў у Глыбоцкую педагагічную вучэльню.

Неяк у 1945 годзе ў Глыбокім трое язненскіх хлопцаў — студэнты педвучэльні Васіль Мядзелец, Антон Фурс і вучань сярэдняй школы Алесь Юршэвіч — пачалі разважаць пра русіфікацыю адукацыі. Прыйшлі да рашэння стварыць патаемную арганізацыю на ўзор віленскіх філаматаў і філарэтаў.



*Антон Фурс*

Сябры СБП прысягалі пад бел-чырвона-белым сцягам і «Пагоняй» быць вернымі ідэалам свабоды і незалежнасці Беларусі. Праз некаторы час глыбоцкая суполка СБП аб'ядналася з суполкай «За Беларусь!», якая адначасова і незалежна паўстала ў Пастаўскай педагагічнай вучэльні.

Савецкія спецслужбы даведаліся пра існаванне арганізацыі і накіравалі ў яе правакатара, які спрабаваў схіліць юнакоў да збройнага паўстання. Хоць правакацыя не атрымалася, але ўсе сябры СБП былі арыштаваныя і асуджаныя за «антысавецкую дзейнасць».

Антон Фурс, які быў сакратаром глыбоцкай суполкі СБП, атрымаў пятнаццаць гадоў лагераў. Адбываў пакаранне на лесапавале ў Свярдлоўскай вобласці і на будаўнічых працах у Казахстане. Правёў у зняволенні дзевяць гадоў.

Пасля вызвалення ажаніўся з Алесяй Умпіровіч, былой удзельніцай СБП, якая правяла ў лагерах Мардовіі дзесяць гадоў. Не знайшоўшы месца на Радзіме, сям'я Фурсаў выехала ў Казахстан, дзе яны пражылі дваццаць пяць гадоў. Там у іх нарадзіліся дзеці Юрась і Людміла. Толькі ў 1982 годзе Фурсы вярнуліся ў Беларусь, набылі дом у Паставах, дзе жывуць і сёння. З Антонам Віктаравічам Фурсам гутарыць Кастусь Шыталь.

**— Антон Віктаравіч, як вы ўсвядомілі сябе беларусам?**

— Школа ўсё дае! Няма школы — няма нічога. Мы жылі за польскай уладай, усё навокал было польскае. Бацькі не ведалі, хто мы, — аралі зямлю, не цікавіліся ніякай палітыкай. Мы ведалі толькі, што мы не рускія, і не польскія. Неяк мы знайшлі пашпарт дзеда, і там было напісана: «нарадовасць» — «тутэйшы».

У школе мы вучыліся па-польску, а на перапынках размаўлялі па-беларуску. Прыйшлі першыя Саветы, яны адкрылі беларускія школы. Нам падабалася. Было шмат танных кніг на беларускай мове. І Жуль Верн, і Гюго, і Пушкін, і Лермантаў. Пры Саветах я скончыў шэсць класаў.

Прыйшлі немцы. Адкрылі беларускія школы — беларускія па духу. Мы вучылі гісторыю па Ластоўскаму, геаграфію па Смолічу, граматыку Тарашкевіча, пісалі на тарашкевіцы. Ладзілі вялікія канцэрты, дэкламацыі і песні беларускія… Я ўжо ў сёмым класе быў свядомым беларусам.

Пасля вайны, як немцаў прагналі, я паступіў у Глыбоцкае педагагічнае вучылішча. Выкладчыкі беларускую мову не ведалі або дрэнна ведалі, і ў нас русіфікацыя пайшла. Як гэта так: пры акупантах, ворагах вучылі па-беларуску, а тут свае прыйшлі, і няма [беларускай мовы]. Гэта нас і падштурхнула стварыць такую нелегальную арганізацыю.

**— Дзеля якіх мэтаў стваралі Саюз беларускіх патрыётаў?**

— Якая была мэта? Мы ж не маглі супраць такой махіны нешта рабіць. Скончым вучылішча, нас пашлюць па вёсках… Такое было становішча, чакалі Трэцюю сусветную вайну. Чэрчыль выступаў дзесьці з такой прамовай… Я ўжо не памятаю, адкуль пра гэта ведалі. Чакалі перамен нейкіх.

Мы думалі: мы ж таксама падрасцём. І каб не адбылося тое, што адбылося, як немцы прыйшлі, калі палякі захапілі [пасады ў акупацыйнай адміністрацыі], мы павінны быць гатовыя.

Прысягу прымалі пад бел-чырвона-белым сцягам і «Пагоняй». А «Пагоню» яна [Алеся Умпіровіч, сябра пастаўскай суполкі СБП, будучая жонка Антона Фурса] намалявала.

**— Як вас арыштоўвалі?**

— 9 лютага [1947 года] былі выбары ў Вярхоўны Савет. Нам сказалі, каб не ехалі дадому, трэба на выбары. Увечары мы сабраліся на кватэры, каб бавіць час. Усе маладыя. Музыкант у нас свой быў, з педвучылішча. Іграем, музыка… Пад 12 вечара заходзяць да нас супрацоўнікі МГБ, патрабуюць дакументы. Там Васіль Мядзелец якраз быў, наш кіраўнік, і я. Нас дваіх налева і павялі…

Уваход быў з кухні. А на кухні лямпачка перагарэўшы. Цёмна. А ў мяне поўная кішэнь папер па арганізацыі. Што рабіць? Зарыентаваўся неяк. На пліце рондалі стаяць. На ходу выкінуў іх у рондаль, ніхто не заўважыў. Павялі нас у МГБ. Там ужо Бялевіч на падлозе ляжаў і Еўдакімаў [сябры СБП].

У нас была палова непаўналетніх. Ім потым далі меней — па 8 гадоў. Большасці далі па 10 гадоў. Нас усяго было 44 чалавекі — пастаўскіх і нашых [глыбоцкіх]. Чатыром была смяротная кара, [яе замянілі на 25-гадовы тэрмін зняволення].

**— Распавядзіце, калі ласка, пра лагеры.**

— Я трапіў на лесапавал. У Свярдлоўскую вобласць, «Востокураллаг». Не хутка мы маглі звязацца з домам, дома не ведалі, куды нас паслалі. Потым, канечне, нам дапамагалі бацькі, пасылкі прысылалі. Мала толку было з пасылак, таму што не было дзе іх захаваць. Знаёмых, землякоў пачастуеш

— хутчэй з’есці, бо ўсё роўна ўкрадуць або адбяруць.

Цяжкая была праца. Вельмі цяжкая. Асабліва зімой. Снег, мароз пад сорак градусаў. Раніцай атрымаеш кавалак хлеба. Трэба ж пакінуць на абед які-небудзь кавалачак. А сіл не хапае, так хочацца з’есці, таму што галодны. Як пазбавіцца гэтай ахвоты? Стаў думаць пра нешта добрае, волю ўспамінаць. І вершы складаў. Пісаць не было чым, і няможна было. Запамінаў.

Ці помніш ты? Ці помніш ты Студэнцтва мілыя гады? Ты больш ужо не ўбачыш іх, Такіх прыгожых, маладых.

Як кветка ранняю вясной Зіяла дзіўнай ты красой. І ў чорнай, непрагляднай цьме жыццё аздобіла ты мне.

Гады міналі, нібы ў сне, Усмешкі ты дарыла мне. І іх, чароўныя, як знаў, У сэрцы я сваім хаваў.

Я помню іх, я не забыў, Аб іх я марыў, аб іх сніў. І сёння, хоць на адзіны міг, Прашу цябе: успомні іх.

**— Пасля вызвалення з лагеру вы апынуліся ў Казахстане…**

— Спачатку я прыехаў дадому. Людзі добра прынялі, а начальства — дрэнна.

Якраз у гэты час будаваўся Наваполацк, ездзіў туды на працу ўладкоўвацца. Я зваршчык высокага разраду быў. Быццам бы патрэбны. А дзе працоўная кніжка? Няма. А дзе ты быў? А дзе, скажаш? Ну, я гавару, дзе быў. І не прынялі мяне на працу. А да бацькі пачаў ездзіць участковы: чаго сын дома сядзіць, нідзе не працуе?

А тут якраз прыходзяць плакаты — набіраюць рабочых на шахты ў Казахстане. Якраз там, дзе я будаваў. Даюць пакой, аплачваюць дарогу.

А я ж толькі з ёй [Алесяй Умпіровіч] пазнаёміўся. («Мы адзін раз толькі ўбачыліся, ён прыехаў другі раз — і мы ажаніліся. Выбару другога не было», — дадае да размовы спадарыня Алеся).

Мы ніяк не знайшлі часу пайсці ў сельсавет, каб аформіць шлюб. У іх не было бланкаў. Так мы і паехалі неафармленыя.

Працаваў матарыстам на шахце. Заробак 60 рублёў на месяц. Але гэта нядоўга было, месяцы тры-чатыры. Потым сваіх сусе¬дзяў па лагеры сустрэў, брыгада сантэхнікаў. Пытаюцца: колькі зарабляеш? Кажу: шэсцьдзесят. Дык ты што? Давай да нас, кажуць. Так я і зрабіў. Там у мяне заробак у тры разы больш стаў.

Мы пражылі ў Казахстане дваццаць пяць гадоў. Дзеці там сярэднюю школу скончылі.

**— Жывучы ў Казахстане, вы адчувалі сябе беларусам?**

— А як жа! Мы, землякі, гуртаваліся, адзін да аднаго ў госці ездзілі. Ні адно свята адны не былі. Алег Лапіцкі з жонкай, родны брат Расціслава Лапіцкага. З яе [Алесі] вёскі быў чалавек, Павал Умпіровіч з жонкай…

Выпісвалі часопіс «Беларусь», «Звязду». Нам з Беластоку прысылалі «Ніву». «Беларускую энцыклапедыю» выпісалі, 12 тамоў.

З Ларысай Геніюш падтрымлівалі сувязь. [Алеся Умпіровіч пасябравала з Ларысай Геніюш у лагеры ў Мардоўскай АССР.] Адтуль на яе 70-гадовы юбілей самалётам прыляталі. Яе муж, Янка, прысылаў нам заўсёды навінкі літаратуры, што ў Беларусі выдаваліся.

**— Ці спадзяваліся вы на тое, што Беларусь стане незалежнай?**

— Слаба мы ўжо спадзяваліся. Калі вярталіся ў Беларусь, думалі: прыедзем у сваю краіну, хоць тут па-беларуску пагаворым. А тут няма з кім гаварыць! І цяпер… Дзень Волі мы святкавалі — дзесяць чалавек было...

**— Што б вы пажадалі сучаснай беларускай моладзі, якая змагаецца за нашу мову, культуру, нацыянальную годнасць?**

— Я б ім пажадаў звярнуць усю ўвагу на мову. На мой погляд, зусім проста: беларусаў восемдзесят працэнтаў — дайце нам восемдзясят адсоткаў школ. Рускіх восем — а ім восем. Патрабаваць трэба.

Як вы станеце свядомымі без школ? Без школ вы не станеце свядомымі.

**Крыніца:** Кастусь Шыталь, “Новы Час”

## РОДНАЯ МОВА

## ЛАЦІНКА = другі беларускі альфабэт

Сяньня беларуская прэса, літаратура й розныя выданьні друкуюцца толькі кірылічным альфабэтам, які ў Рэспубліцы Беларусь — дзяржаўны.

Выкарыстоўваньнем толькі кірыліцы беларуская культура трапляе ў групу толькі праваслаўных, як прыкл. расейскай, украінскай, сэрбскай, баўгарскай, македонскай.

Праўда, ужо ў у сярэднявечччы беларуская культура квітнела кірыліцай. Прыклады: выданьні Францішa Скарыны, Літоўскі Статут, Гальляш Капіевіч, якога спрошчанай (змадэрнізаванай) кірыліцай карыстаемся дагэтуль.

Аднак, будучы стагодзьдзямі галоўнай часткай Вялікага Княства Літоўскага, а пасьля й Польска-Літоўскай Рэчпаспалітай, Беларусь таксама засвоіла элемэнты заходніх культураў - у тым ліку лацінічны альфабэт.

Таму й першае выданьне беларускага адраджэньня ў 19-тым стагодзьдзі , Кастуся Каліноўскага «Мужыцкая Праўда», друкавалася ЛАЦІНКАЙ . Часткава на ёй-жа друкавалася адраджэнская прэса з пачатку 20-га стагодзьдзя: газэты НАША НІВА, ГОМАН, КРЫНІЦА.

ЛАЦІНКАЙ таксама друкаваліся творы клясыкаў беларускае літаратуры : Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа ды іншых.

Кароткі **ПЕРАЛІК** выгадаў (карысных бакоў) беларускае лацінкі:

1. Лепш перадае моўныя (фанэтычныя) асаблівасьці беларускае мовы. Перадусім — гэта наяўнасьць большага ліку мяккіх сугукаў ( зычных), як ЦЬ, НЬ, ЛЬ, ЗЬ, СЬ.

2. Можна яе выкарыстаць для транслітэрацыі беларускае кірыліцы ў міжнародныя лацінскія альфабэты.

Пачынаючы г. 2001 Рэспубліка Беларусь афіцыйна карыстаецца беларускай лацінкай для транслітэрацыі беларускіх геаграфічных назоваў (рэкаў, азёраў, вёсак, гарадоў).

3. Выкарыстаньнем лацінкі беларуская культура стане бліжэйшай іншым цэнтральна і паўдзённа-славянскім народам з лацінскім альфабэтам( чэхам, славакам, палякам, харватам).

Ніжэй падаем кароткае **ПАДСУМАВАНЬНЕ** правілаў беларускай лацінкі, якое прызначана тым, хто нармальна карыстаецца кірыліцай.

## ПАДСУМАВАНЬНЕ

1. Літары й гукі, якія ŭ лацінцы й кірыліцы пішуцца й вымаўляюцца **аднолькава**:
а) самагукі (галосныя) **A, I, O**
б) сугукі (зычныя) **K, M, T**

2. самагукі толькі ŭ лацінцы:
**E = Э** ŭ кірыліцы
**U = У** "
**Y = Ы** "
3. Поўсамагук
**Ŭ = Ў** у кірыліцы
4. сугукі **толькі** ŭ лацінцы:
**B = Б** у кірыліцы
**C = Ц** "
**D = Д** "
**F = Ф** "
**H = Г** "
**G** - у беларускай кірыліцы **няма адпаведніка** адпавядае расейскаму **Г** ( у слове **Г**ЛАЗ)
**L = Л** у кірыліцы
**N = Н** "
**P = П** "
**R = Р** "
**S = С** "
**V = В** "
**Z = З** "
**Двух-літарныя сугукі:**
**DZ = ДЗ** у кірыліцы
**CH = Х** "
5. сугукі з **"ПТУШКАМІ"** ŭ лацінцы :
**Č = Ч** у кірыліцы
**Š = Ш** "
**Ž = Ж** "
**DŽ = ДЖ** "
6. **МЯККІЯ** сугукі ŭ лацінцы:
**Ć, ć = ЦЬ** у кірыліцы
**Ĺ, ľ = ЛЬ** "
**Ń, ń = НЬ** "
**Ś, ś = СЬ** "
**Ź, ź = ЗЬ** "
**DŹ, dź = ДЗЬ** "
7. Поўсамагук **J** у лацінцы:
а) у канцы складу/слова:
**J = Й — moj =** ***мой***
б) на пачатку складу/слова,
у злучэньні з самагукамі **A, E, I, O, U:**
**JA = Я — jama, siamja =** ***яма, сям'я***
**JE = Е — jem, nadvorje =** ***ем, надвор'е***
**JI = І — jimi, vierabji =** ***імі, вераб'і***
**JO = Ё — jon, kapjo =** ***ён, кап'ё***
**JU = Ю —maju, pju =** ***маю, п'ю***

8. Самагук **I** у лацінцы:
а) нескладовы, у двухлітарных групоўках з **A, E, O, U** пасьля губных сугукаў **B, P, V, F, M**, і таксама **K, H, CH :**
**IA = Я — b<u>ia</u>re, p<u>ia</u>ro =** ***б<u>я</u>рэ, п<u>я</u>ро***
**IE = E — v<u>ie</u>ra, k<u>ie</u>pski =** ***в<u>е</u>ра, к<u>е</u>пскі***
**IO = Ё, IU = Ю**
б) нескладовы, у двухлітарных групоўках з **A, E, O, U** ***зьмякчае*** папярэднія сугукі **C, L, N, S, Z, DZ**
**IA = Я — n<u>ia</u>ma, us<u>ia</u> =** ***н<u>я</u>ма, ус<u>я</u>,***
чытаем — **ńama, uśa**
**IE = E — s<u>ie</u>na, voz<u>ie</u>ra, c<u>ie</u>sta =** ***с<u>е</u>на, воз<u>е</u>ра, ц<u>е</u>ста***
чытаем — **śena, voźera, ćesta**
**IO = Ё — us<u>io</u>, n<u>io</u>s, l<u>io</u>n =** ***ус<u>ё</u>, н<u>ё</u>с, л<u>ё</u>н***
чытаем — **uśo, ńos, ľon**
**IU = Ю — n<u>iu</u>chać, dz<u>iu</u>ba =** ***н<u>ю</u>хаць, дз<u>ю</u>ба***
чытаем — **ńuchać, dźuba**
сам самагук **I** таксама ***зьмякчае*** папярэднія сугукі **C, L, N, S, Z, DZ**
***ПРЫКЛАДЫ: cicha, ništo, sila, zima, dziva***
чытаем — **ćicha, ńišto, śila, źima, dźiva**

**РОЗЬНІЦЫ** між беларускай і падобнай польскай лацінкай:

1. Беларуская лацінка перадае ШЫПЯЧЫЯ сугукі Ч, Ш. Ж літарамі Č, Š, Ž ( дыякрытычнымі знакамі, г.зв. *птушкамі*).

Такім-жа спосабам перадаюць гэтыя гукі чэхі, славакі, харваты, славінцы, летувісы й латышы.

2. Пары цьвярдых і мяккіх сугукаў: Ц-ЦЬ, С-СЬ і г.д. пішуцца ŭ беларускай і польскай лацінцы АДНОЛЬКАВА, з адным выняткам:

У польскім варыянце цьвярды сугук Л мае асобную літару Ł, а мяккі сугук пішацца проста, як L..

Беларуская лацінка перадае пару Л -ЛЬ праз L - Ľ , азначаючы мяккі сугук дыякрытычнай коскай, так, як рэшту мяккіх сугукаў у падобных парах.

**ДА ВЕДАМА чытачоў:**
Бяручы прыклад з газэты РУНЬ (гл. рубрыку НОВАЯ ПРЭСА на ст. хх), у наступным нумары КРЫВІЯ таксама надрукуе беларускай лацінкай
***Інтэрв'ю з а. Надсанам***

---

# ХТО СТВАРАЕ „БЕЛАРУСКАЕ АСЯРОДЗЬДЗЕ"?

У мяне ёсьць некалькі сяброў, якія даволі добра валодаюць беларускай мовай, але па-ранейшаму гавораць на расейскай мове. Яны ўсе выдатна ведаюць, што гэта няправільна, але нічога ня робяць. Я пацікавілася, чаму? Быццам бы галоўная прычына ў меркаванай „адсутнасьці беларускага асяродзьдзя"...

Аднойчы я заўважыла, як мой расейскамоўны сябра Валеры размаўляе з нашым супольным, беларускамоўным сябрам Антосем. Ён цудоўна гаварыў па-беларуску. Я яго запытала: „Чаму ты з Антосем размаўляеш па-беларуску, а зь іншымі – па-расейску?" Ягоны адказ мяне зьдзівіў. Ён сказаў: „Калі са мной хтосьці гаворыць на беларускай мове, дык я яму адказваю таксама па-беларуску. А калі на расейскай, я таксама па-расейску". „Значыць,

калі Антось гаворыць выключна па-беларуску, ты зь ім размаўляеш таксама выключна па-беларуску?“ „ТАК!“ Вось логіка.

Я задала майму сябру падступнае пытаньне: „Валеры, а ці ты задумваўся часам пра тое, што калі **ТЫ** будзеш размаўляць па-беларуску, многія будуць **ТАБЕ** адказваць па-беларуску?“ Мой сябра заціх у зьдзіўленьні. Відавочна, пра такое ён ніколі ня думаў.

Дарагія беларусы, адно можна сказаць з упэўненасьцю: беларускае асяродзьдзе ня будзе ствараць ніхто іншы, акрамя вас саміх! Кожны з вас можа пачаць яго ствараць каля сябе. Пачніце з сябе, і вы ўбачыце, што тых, хто прыме гэты выклік, будзе больш, чым вы меркавалі!

Дарэчы: Валеры сёньня карыстаецца беларускай нашмат больш, чым раней. Таксама, як і некалькі іншых маіх сяброў. Яшчэ нядаўна я наракала, што мне няма з кім практыкавацца ў беларускай мове, калі амаль усе „мае” беларусы – расейскамоўныя (*пакідаю ў баку той факт, што ў Чэхіі, у горадзе, дзе я жыву, зь беларусамі амаль ніякага кантакту няма*). Тады я вырашыла, што незалежна ад таго, як яны гавораць, я буду ў зносінах з беларусамі карыстацца выключна беларускай мовай. Аказалася, што, раней ці пазьней, яны пачынаюць мне адказваць таксама па-беларуску. І ня толькі гэта. З майго досьведу, маіх сяброў гэта хутка падкупляе. Такім чынам, вакол мяне, чэшкі, „беларускае асяродзьдзе” ўзьнікае параўнальна лёгка і хутка.

Дык вось – пакіньце апраўданьне, што няма асяродзьдзя, і пачніце яго актыўна ствараць. З любоўю да гэтага! Зычу вам посьпехаў.

**P.S.1**: Лічыце, што мне, як іншаземцы, у гэтым прасьцей? Так, з аднаго боку гэта праўда. Мае сябры адчуваюць сорам, што яны не карыстаюцца мовай продкаў, калі нават чэшка здолела яе вывучыць. Іх гэта вельмі ўражае і захапляе. Але, зь іншага боку, мне нашмат складаней. Як вы думаеце? Мне таксама лягчэй гаварыць на расейскай, якую я адзінаццаць гадоў вывучала, па якой у мяне ёсьць міжнародны дзяржаўны экзамен... У беларускай мне часта не хапае слоўнікавага запасу... Маё асяродзьдзе зусім іншае, мне цяжка зразумець „дух беларускай мовы”, маю акцэнт, часам ня там стаўлю націск... Але гэта ж мяне ня спыніць!

**P.S.2**: Я добра ўсьведамляю, што, гаворачы пра „беларускае асяродзьдзе”, вы маеце на ўвазе нашмат больш, чым толькі мову. Але, як эколаг паводле адукацыі, я ведаю, што асяродзьдзе складаецца з мноства асобных элементаў. Кожны зь іх мае сваё значэньне, і мы ня можам сказаць, што ня варта абараняць адзін кавалак асяродзьдзя, калі іншыя руйнуюцца. Мэтанакіраваная, актыўная абарона кожнай часткі, нават самай маленькай, вельмі важная для агульнага выніку.

Беларускамоўная, аднак “чыстапародная” чэшка
Сьвятлана Вранова
04.06.2012

## Новыя Кнігі, прэса

* **Газэта РУНЬ** - беларуская газэта ў Вільні
выходзіць нерэгулярна, апошні нумар выйшаў у сакавіку 2012 г. Далейшыя нумары РУНІ будуць пасылацца ў Беларускую Бібліятэку ў Празе.
Пачынаючы з апошняга нумару, палова матар'ялаў у газэце маюць друкавацца беларускай лацінкай


Siaržuk VITUŠKA
Pahonia
kliča
na prastor!
Star. 4
РУНЬ
Беларуская газэта ў Вільні
ISNN 1392-7671 № 65 23 сакавіка 2012 г.
Алег МІНКІН
Афрадыта
Я пішу, як цьвікі
забіваю ў труну...
Стар. 8

*** МОЦ СМАКУ - Беларуская Кухня**, 228 старонак
Аўтар - Юры Качук, выдадзена ў г. 2010 у Беластоку.






Багата ілюстраваная кніга зьмяшчае больш за 300 рэцэптаў на стравы й напоі, у наступных разьдзелах:

*Стравы зь яйкаў, Заедкі, Стравы з грыбоў, Варыва, Мясныя стравы, Рыбныя стравы, Стравы з гародніны, Стравы з малака, мукі й круп, Ласункі, Напоі.*

## Беларусы Эўразьвязу

# Вільня: Імпрэза ў ТБК 26 траўня

26 траўня, як звычайна ў апошнюю суботу месяца, у ТБК у Вільні адбылася чарговая імпрэза. За весну ў Вільні адбыўся цэлы шэраг падзеяў зьвязаных з беларускай культурай, а таму асноўнай тэмай імпрэзы была прэзэнтацыя адбыўшыхся мерапрыемстваў.

На пачатку імпрэзы прэзыдэнт студэнтскае асацыяцыі «StudAlliance» Кірыл Атаманчык прэзэнтаваў сэрыю мерапрыемстваў, арганізаваных асацыяцыяй, пад назвай «Беларуская вясна». У межах гэтае кампаніі адбыўся шэраг фотавыставаў, мастацкіх перфомансаў, а напрыканцы траўня кампанію гучна закончыў канцэрт «Салідарнасьць зь Беларусьсю» на якім выступілі вядомы Берасьцейскі альтэрнатыўны гурт “Сьцяна” і ня меньш вядомы выканаўца гіп-гопу Вінсэнт (які згуляў асноўную ролю ў фільме «Жыве Беларусь»..

Далей мерапрыемства працягнуў віленскі беларускі навуковец Юрась Юркевіч. Юрась, з дапамогай калегаў, апошнім часам зрабіў вялізарную працу па зборы невядомых дакумэнтаў часоў БНР. На нашай імпрэзе Юркевіч прэзэнтаваў вялікую колькасьць дакумэнтаў з сабранага матар’ялу. Сярод дакумэнтаў, здымкі якіх паказваў навуковец, былі невядомыя дакумэнты Антона Луцкевіча і іншых вядомых беларускіх дзеячоў, БСРГ, беларускіх вайсковых фармаваньняў таго часу, а таксама невядомыя фотаздымкі.

Таксама ў траўні гэтага году ў нашым Таварыстве адбылася надзвычай радасная падзея – споўнілася 92 гады заслужанаму чальцу нашае арганізацыі Ніне Брылеўскай. Сп. Ніна пражыла надзвычай доўгае і насычанае падзеямі жыцьцё, доўгі час працавала настаўніцай, ад самага утварэньня ТБК зьяўляецца адданай яго прыхільніцай. Яшчэ раз віншуем сп. Ніну зь Днём Народзінаў!

Пятро Шыба
Вільня,30 траўня 2012 г.

---

# Памёр СЯРЖУК ВІТУШКА Было яму 47 год

Сёньня раніцай у віленскай лякарні памёр Сяржук Вітушка. Ён быў кіраўніком легендарнай менскай «Талакі» — адной зь першых паўпадпольных незалежніцкіх арганізацыяў у часы СССР.

Два тыдні таму ў яго здарыўся інфаркт.

Апошнія дні ён правёў у цяжкім стане і памёр на руках у жонкі Людвікі, якая апекаваліся ім, немачным, доўгія гады ягонай слабасьці.

Ён доўга цяжка хварэў на дыябет, страціў зрок і нагу.

Асьлепнуўшы, вучыўся друкаваць на камп’ютары ўсьляпую, складаючы вершы:

Krajina
Na pašparcie zołatam — VKL,
I viza ź minuŭščyny ŭ novi.
Čytajcie, zajzdroście — ja hramadzianin
Vialikaha Kniastva Lubovi.

Сяржук нарадзіўся ў 1965 годзе ў мястэчку Чысьць Маладзечанскага р-ну. Скончыў гістфак БДУ.

Шмат пісаў на тэмы маладзёвага руху, аховы помнікаў, краязнаўства. З 1991 года жыў у Вільні, працаваў у беларускай школе, на радыё і тэлебачаньні. Страціўшы зрок, ня спыніў актыўнае дзейнасьці, у прыватнасьці, арганізоўваў «сьляпыя экскурсіі» для беларусаў па старажытнай сталіцы ВКЛ, працягваў шмат пісаць, у тым ліку дзіцячыя казкі і п’есы-батлейкі.

У 2011 годзе выйшла яго кніга «Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі!». Радыё «Рацыя» зафундавала кампакт-дыск на яе аснове.



*Сьв. пам. Сяржук Вітушка*

Хаваць Вітушку будуць у родавай вёсцы Рагава.

3 ліпеня адбылося развітанне ў Вільні.

4 ліпеня адбылося адпяваньне ў грэка-каталіцкай царкве ў Мінску (Арджанікідзэ, 6, ст.м. «Аўтазаводская») і разьвітанне з менскімі сябрамі.

Да апошняга Сяргей ня траціў сьвятліні духу і гумару:

Epitafija
Ležučy pad kvitniejučaj hruškaj,
Razumieju — narešcie ja volny.
Tolki pčołki huduć mnie nad vuškam.
Usie davolny.

*Адышоў валатоўскі чалавек беларускай нацыі.*

**Крыніца:** *Наша Ніва*, 2 ліпеня 2012

---

# Па беларускіх мясьцінах Вільні

**У Вільні цяпер можна замовіць экскурсію па беларускіх мясьцінах. Сёньня на падобнае мерапрыемства сабралася каля 70 чалавек, большасьць якіх прыехалі зь Беларусі.**

Экскурсію па вулках крывіцкай Меккі, як называў Вільню Максім Багдановіч, праводзіць беларускі віленчук **Валянцін Стэх.** Арганізаваць сёньняшнюю экскурсію яму дапамагала беларуская актывістка **Валерыя Чарнаморцава**.

*- Сабралася больш за 70 чалавек. Мы зараз каля Сьвята-Духавага манастыра знаходзімся. У 16 гадзін будзе экскурсія, такое ўшанаваньне памяці славутых беларусаў-віленчукоў, на могілкі Росса. Праводзіць аглядную экскурсію па беларускай Вільні спадар Валянцін Стэх, віленскі беларус, які атрымаў нядаўна афіцыйнае пасведчаньне экскурсавода. На могілкі Росса нас павядзе Людвіка Вітушка.*

Валерыя Чарнаморцава паведаміла, што гэта першае падобнае мерапрыемства. Але плануецца, што такія экскурсіі стануць традцыйнымі. У планах – правесьці ў Вільні фэст беларускіх эксурсаводаў.

**Васіль Кроква,** Радыё Рацыя**.** 29-04-2012

# «Бацькаўшчына» заклікае абараніць іркуцкіх беларусаў

Управа МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» выказвае вялікую занепакоенасць з нагоды крымінальнага перасьледу Маладзёвага клуба «Крывічы» пры Іркуцкім таварыстве беларускай культуры імя Яна Чэрскага і яго старшыні — Алега Рудакова і звяртаецца па дапамогу ў адстойванні яго гонару і годнасці да беларусаў свету.

Як стала вядома, Следчае ўпраўленне Следчага камітэта Расійскай Федэрацыі па Іркуцкай вобласці з падтрымкай СОБРА і Спецназа 12 красавіка каля 8.20 уварваліся ў масках і з аўтаматамі ў кватэру старшыні Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алега Рудакова і на сядзібу Таварыства.

Па інфармацыі Алега Рудакова, супрацоўнікамі праваахоўных органаў у яго на кватэры былі канфіскаваны 2 кампутары, ноўтбук і некаторыя кнігі, у тым ліку «Кто есть кто в Великой Отечественной войне» на рускай мове. На сядзібе ІТБК былі канфіскаваны: кніга «Антыбальшавіцкія паўстанні на Беларусі», пяць каляндарыкаў з выявамі вайскоўцаў БНР і БКА, а таксама невядома кім пакінутая кніжачка па саенталогіі і тры нумары газеты «Наследие предков» за 2004 год.

Алегу Рудакову прад’явілі Пастанаўленне аб вобшуку, дзе было сказана, што заведзена крымінальная справа, у якой ён фігуруе як лідар «экстрэмісцкай групіроўкі «Моладзевы клуб «Крывічы». Ксеракопію з Пастанаўлення зняць не дазволілі.

«У Пастанаўленні аб вобшуку напісана, што я з’яўляюся духоўным лідарам гэтай групоўкі, што я “выбудаваў жорсткую іерархію і беспярэчнае падпарадкаванне мне, як лідару”, што я выкладаю баявыя віды барацьбы і забараняю ў межах групоўкі размаўляць на рускай мове і шмат чаго яшчэ, што, безумоўна, лухта»,

— паведаміў Алег Рудакоў.

Такія неадэкватныя дзеянні былі выкліканыя тым, што праваахоўныя органы Іркуцка завялі крымінальную справу аб экстрэмізме супраць беларуса Аляксея Кухты, актывіста моладзевага клуба «Крывічы», створанага пры Іркуцкім таварыстве беларускай культуры. Аляксею Кухту выставілі абвінавачанне паводле артыкула «Узбуджэнне нянавісці альбо варожасці, а таксама знявага чалавечай годнасці».

Па інфармацыі Алега Рудакова, Аляксей Кухта размясціў на сваёй асабістай старонцы ў сацыяльнай сетцы «Вконтакте» прафашысцкія і антысеміцкія выказванні і фотаздымкі.

Таксама ён з'яўляецца мадэратарам старонкі моладзевага клуба «Крывічы» «Вконтакте». Там ён размясціў фільм «Беларускі рэзістанс» і фота дзеячаў БКА. Ён зрабіў гэта па ўласнай ініцыятыве, не папярэдзіўшы пра гэта Алега Рудакова. На думку апошняга, выглядае на тое, што Следчы камітэт і Аддзел па экстрэмізму вырашылі выслужыцца.

У сувязі з гэтай крымінальнай справай другі раз за тыдзень былі праведзеныператрусы ў кватэры старшыні Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алега Рудакова і на сядзібе Таварыства.




*Алег Рудакоў*

Спроба прыцягнуць Алега Рудакова да крымінальнай адказнасці як лідара «экстрэмісцкай групіроўкі «Моладзевы клуб «Крывічы» выглядае абсалютна неабгрунтаванай і нават абсурднай. Ужо больш за 15 год Алег Рудакоў нястомна працуе на ніве папулярызацыі беларускай культуры ў Прыбайкаллі. Яго імя добра вядомае беларусам ва ўсім свеце.

Мерапрыемствы, якія праводзяцца ІТБК і маладзёвым клубам «Крывічы» з’яўляюцца адкрытымі. На іх прысутнічаюць людзі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў, прадстаўнікі органаў улады і СМІ. Відэарэпартажы пра дзейнасць Таварыства рэгулярна паказваюць па мясцовых тэлеканалах.

Алег Рудакоў узнагароджаны шматлікімі ганаровымі граматамі, у тым ліку Ганаровай граматай Губернатара Іркуцкай вобласці. Ён з’яўляецца сябрам Кансультатыўны Савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь. У красавіку 2010 года Указам № 195 прэзідэнта Рэспублікі Беларусі за асабісты ўклад у захаванне традыцый беларускай культуры Алег Рудакоў быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» абуранае дзеяннямі Следчага ўпраўлення Следчага камітэта Расійскай Федэрацыі па Іркуцкай вобласці, якія нават пры наяўнасці падставаў для ўзбуджэння крымінальнай справы ў дачыненні да сп. Кухты, не мелі ні падставаў, ні маральнага права наносіць урон сваімі дзеяннямі Алегу Рудакову і Іркуцкаму таварыству беларускай культуры.

Управа Міжнароднага грамадскага аб’яднання Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» заяўляе што, Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага і створаны пры ІТБК моладзевы клуб «Крывічы» займаюцца выключна культурніцкай дзейнасцю,

у прыватнасці дзейнасцю па адраджэнні і папулярызацыі духоўных і культурных каштоўнасцяў беларускага народа ў Прыбайкаллі, распаўсюджванні і падтрымцы беларускіх нацыянальных звычаяў, рамёстваў, абрадаў і мовы. Згуртаванне «Бацькаўшчына» шчыльна супрацоўнічае з ІТБК ад моманту стварэння Таварыства ў 1996 годзе.

Кіраўніцтва «Бацькаўшчыны» добра ведае асабіста Алега Рудакова і многіх актывістаў ІТБК.

Управа Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» заклікае грамадскасць Беларусі, арганізацыі беларускай дыяспары па ўсім свеце абараніць гонар і годнасць Іркуцкага таварыства беларускай культуры і яе кіраўніка Алега Рудакова і дасылаць адпаведныя звароты ў амбасаду Расіі ў Беларусі і наўпрост у Пракуратуру Іркуцка.

**Даведка:**

**Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага** было створана Алега Рудаковым у 1996 годзе. Асноўная мэта Таварыства – адраджэнне, захаванне і развіццё духоўных і культурных каштоўнасцяў беларускага народа, распаўсюджванне і падтрымка беларускіх нацыянальных звычаяў, рамёстваў, абрадаў і мовы.

Іркуцкая гарадская маладзёжная грамадская арганізацыя “Моладзевы клуб “Крывічы” (МК “Крывічы”) афіцыйна зарэгістраваная ва Упраўленні Міністэрства юстыцыі Расійскай Федэрацыі па Іркуцкай вобласці 8 верасня 2009 года. Дадзеная арганізацыя займаецца вывучэннем беларускіх святаў, рамёстваў, песень і танцаў.

У Іркуцкай вобласці дзейнічае 11 аддзяленняў ІТБК. Акрамя моладзевага клуба “Крывічы”, пры ІТБК дзейнічаюць 6 беларускіх фальклорных гуртоў, 3 дзіцячыя фальклорныя студыі, 2 харэаграфічных дзіцячых ансамблі, народны беларускі хор, 2 гурты аўтэнтычных беларускіх спеваў. У сядзібе Таварыства створаны бібліятэка беларускай літаратуры і музей-майстэрня “Беларуская хатка”, дзе сабраны ўнікальныя экспанаты з беларускіх вёсак Прыбайкалля. У музеі іркуцкая моладзь займаецца старажытнымі беларускімі рамёствамі: саломапляценнем, сэнсавай вышыўкай, ткацтвам, паясапляценнем, выцінанкай, рэканструкцыяй нацыянальных беларускіх строяў і інш.

ІТБК рэгулярна ладзіць адзначэнне старадаўніх беларускіх святаў, такіх як Гуканне Вясны, Камаедзіца, Купалле, Дзяды, Каляды, праводзіць майстар-класы па навучанні беларускім народным танцам, беларускія гістарычныя вечарыны, этнаграфічныя экспедыцыі па беларускіх вёсках Прыбайкалля і інш. Штогод ладзіцца абласны Фестываль-конкурс “Гучы, гоман беларускі”, на які з’язджаюцца калектывы з усяго Прыбайкалля.

У 2011 годзе Рэгіянальная грамадская арганізацыя “Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага” заняла першае месца ў конкурсе на лепшы нацыянальна-культурны цэнтр Іркуцка, які праводзіўся адміністрацыяй горада.

**Крыніца**: Радыё Свабода, 4 чэрвеня 2012

**ВІНШУЕМ**
**нашых сяброў**
**з НАРОДЗІНАМІ!**

**у ЧЭРВЕНІ**:
**Тацьцяну Кажамяка**

**у ЛІПЕНІ**:
**Ірыну Станкевіч, Генадзя Кажамяку**
**Вольгу Смалянчук, Алеся Ясінскага**

**у ЖНІЎНІ**:
**Андрэя Гайка**
**Івана , Мартіну Сапегіных**
**Сьцяпана Вінакурава**
**Ганну Ляшкевіч**

## СПОРТ

# Беларускамоўныя банеры футбольных заўзятараў

Каментатар Павел Баранаў адпрацаваў на беларускай мове цалкам матч паміж БАТЭ і «Славіяй». На фанацкім сектары барысаўцаў быў прэзентаваны новы белмоўны банер «БАТЭ назаўжды ў нашых сэрцах і да канца нашых дзён».




Тыднем раней Уладзімір Навіцкі так натхніўся беларускамоўным дыктарам на гомельскім стадыёне, што таксама перайшоў падчас трансляцыі на «матчыну мову». Увогуле, у фанацкім асяроддзі звяртае ўвагу, што ўсё большая колькасць груповак звяртацца да беларускай мовы: то банер на ёй зробяць, то крычалкі праскандуюць. Прычым, назіраецца гэта ў абсалютна розных камандах.




Багуслаўцы. Так называюць сябе фаны жодзінскага «Тарпеда». У гонар Багуслава Радзівіла - заснавальніка паселішча, дзе сёньня размяшчаецца Жодзіна. Яшчэ ёсьць расьцяжка «Громкае імя Тарпеда».

Здавалася б, большых апанентаў, чым «Дынама» і «Партызан» у беларускім фанруху цяжка знайсьці, але па пытаньнях мовы іх пазіцыі падобныя.



## Штурхальніца ядра Надзея Астапчук двойчы абнавіла нацыянальны рэкорд

Штурхальніца ядра **Надзея Астапчук** двойчы абнавіла нацыянальны рэкорд падчас выступу на адкрытым чэмпіянаце Беларусі па лёгкай атлетыцы, які праходзіць у Гродне. У шостай спробе Надзея адправіла снарад на адзнаку 21,39 м. Срэбным прызёрам чэмпіянату Беларусі стала Натальля Міхневіч з вынікам 19,77 м, Яніна Правалінская-Карольчык заняла трэцяе месца (18,31 м).




*Надзея Астапчук*

У мужчынскім штурханьні ядра перамог Павел Лыжын (20,26 м).

У скачках у даўжыню Анастасія Міроначык-Іванова ўсталявала асабісты рэкорд (7,22 м).

У кіданні молата перамог Павел Крывіцкі (77,81 м), другім быў Юрый Шаюнаў (75,96 м).

**Крыніца:** Радыё Рацыя, 07.07.2012

## Беларуская Чэхія

## Беларуская Прага сьвяткавала КУПАЛЬЛЕ

*ПАЧАТАК на ст. 3*

*АЎТАРКА здымкаў, азначаных (АБ) =*
*Аксана Бязрукая, PAPARAZZIKIDZ.COM*

Пазьней, як ужо сьцямнела, было запалена сымбалічнае (бо мініятурнае) купальскае вогнішча, кругом якога, пад гукі купальскіх песьняў, хадзілі карагодам моладзь, і маладыя бацькі са сваімі дзеткамі.

У міжчасе сп-ня Мазюк пазнаёміла нашых дзяўчат з тэкстам і мэлёдыямі купальскіх песенек .

Ніжэй падаем тэксты дзьвюх песенек:

***Ішла Купалка сялом-сялом,***
***Закрыўшы вочкі пяром-пяром,***
***Вітала хлопцаў чалом-чалом,***
***Паліла ночкі агнём-агнём,***
***Пляла вяночкі шаўком-шаўком,***
***Слыла Купалка дабром-цяплом,***
***Славу Купалцы пяём-пяём.***

***Пойдзем дзеўкі, пойдзем дзеўкі каля жыта,***
***Ці ня знойдзем, ці ня знойдзем каго ў жыце,***
***Ці коніка, ці коніка варанога,***
***Ці хлопчыка, ці хлопчыка маладога.***
***Калі каня, калі каня — лавіць будзем,***
***Калі хлопца — жаніць будзем.***
***Калі каня, калі каня — пагарцуем,***
***Калі хлопца, калі хлопца — патанцуем.***



*Сп-ня Мазюк з вучаніцамі (АБ)*



*ВУРАЙ, у поўным складзе (АБ)*



*Кіраўнік ВУРАЮ,*
*Сяржук Доўгушаў (АБ)*



*КАРАГОД, бацькі зь дзецьмі*



*Наш малы касьцёр*



***Беларускія Танцулькі (АБ)***
*...і пусьціліся ў скокі...*

## Беларусь у сьвеце

# Вітаўту Кіпелю -- 85 !
# Патрыярх беларусістыкі сьвяткуе народзіны

Вітаўт Кіпель нарадзіўся 30 мая 1927 г. у Менску.

Ён толькі восем год жыў у Беларусі.

У 1933 г. Марыя Кіпель з шасьцігадовым сынам выехалі ў Расію, дзе адбываў пакараньне бацька Яўхім. Вярнуліся толькі ў вайну. У 1944 г. сям'я Кіпеляў выехала на Захад.

Ужо 30 гадоў, ад 1982, ён узначальвае Беларускі інстытут навукі і мастацтва (БІНІМ) у Нью-Ёрку.

Дзякуючы яго мэнеджарскім здольнасьцям, выдадзеныя гэтай ініцыятывай некалькі дзясяткаў кніг удавалася ня толькі друкаваць, але і распаўсюджваць.



Разам з жонкай Зорай, Вітаўт Кіпель сабраў і сістэматызаваў найбагацейшую калекцыю эміграцыйных беларускіх пэрыёдыкаў і друкаў.

171 скрыня матар'ялаў была аддадзеная на захаваньне ў Нью-Ёрскую публічную бібліятэку. Гэты збор стаў асновай унікальнай і фундамэнтальнай працы «Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе» -- настольнай кнігі гісторыкаў эміграцыі і ўсіх зацікаўленых беларусістыкай.

**Крыніца:** *Наша Ніва*, 30.05. 2012


**КРЫВІЯ - Культурна-асьветніцкая газэта**
Выданьне беларускай дыяспары ў Чэхіі
MK ČR E 16919
РЭДАКЦЫЯ
Юрка Станкевіч
Ганна Васілевіч
Адрас рэдакцыі: Časopis KRYVIJA
ul. Malešická 553/65, 108 00 Praha 10